пранізаў Сцяпанавы грудзі. Рукі яго адразу расслаблі, упусцілі акраец, заняло дыханне, і ён апошнім сударгавым намаганнем апруцянела пераваліўся тварам угору.

Праз якую секунду ён зразумеў, што гэта канец, і расплюшчыў засыпаныя пяском вочы. Да яго падвалілася і смяртэльна торгалася нечая гарачая спіна, а затым з яснага спякотнага неба проста ў ягоны твар зірнулі з-пад калматых белых броваў пустэльныя вочы Панцырганса. Спяпан інстынктыўна тузануўся ў доле; бялесыя павекі цепнулі, затым у небе мільганула чорнае зрэнка парабелума, і грымотны стрэл ударыў яго ў галаву…

…Але ёсць на свеце добрыя людзі, і яны дамагліся таго, што праз многа-многа дзён усё ж убачыў Сцёпка Валыга і яснае неба, і тугія, паніклыя долу сланечнікі, і хлеб, да якога ўжо не было ранейшага смаку… Пасля ўбачыў маленькі надмагільны курганок між струхлелых і новых крыжоў за хутарам. Яшчэ праз немалы час убачыў мноства бяззбройных люфт-панцыр і проста пяхотных «гансаў» на стэпавых дарогах, а праз доўгае доўга спаткаў малога Кандратавага сына — Лёніка. Самога ж Кандрата і таго белагаловага ўпартага хлапчука ўбачыць Сцяпану больш не давялося ніколі.

З таго часу з’явіўся ў яго на лобе чорны вузенькі раменьчык.

— Нягожа, нягожа так хлеб шпурляць,— нязлосна кажа Змітрук, кідаючы непрыкметныя позіркі на скрыўлены болем, пакутны Спяпанаў твар. — Хлеб — гэта божая сіла. Ад хлеба, брат, жысць на зямлі...

Лёнік, валюхаючы тугімі, як у бацькі, плячыма, нясе падабраны кавалак і, не ведаючы, што зрабіць з ім, кідае на разасланую ля Сцяпана газеціну.

— Падумаеш!..— прыцішана буркае ён, трошкі боязна пазіраючы на дзядзьку Сцяпана. А той ужо крыху адышоў ад сваёй нервовасці, бярэцца за каўбасу, але ўсё яшчэ сурова, амаль з нянавісцю, адным сваім уцалелым вокам глядзіць на Лёніка. Чорны раменьчык глыбока ўрэзваецца ў яго набраклы ад гневу лоб.

— Эх-хе! — падмацаваўшыся, месціцца на траве дзед Змітрук. — Маладыя, дзе ім хлеб шанаваць, працу... Маладота-дурнота, хіба яна цяміць...

Дзядзька Спяпан на тое злосна паварочваецца да яго і кідае коратка і сурова, як прысуд:

— Разумець трэба! Не маленькі!

## Змест



Быкаў Васіль

Адна ноч. – Мінск, Беларусь, 1965. – 184 с., з іл.